ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга Ноша

№ 25
красавік, 2014

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Наталка БАБІНА: «Кніга пішацца праз мяне...»



**– Шаноўная Наталля Васільеўна, Вашыя творы вядомыя не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Раман «Рыбін горад» выходзіў у перакладзе на польскую і ўкраінскую мовы, а нядаўна быў выдадзены па-англійску ў Лондане. Што, на Вашую думку, выклікала такую цікавасць да твора і як яго ўспрынялі замежныя чытачы?**

– Неўзабаве раман выйдзе яшчэ і па-руску – у электронным выглядзе, у выдавецтве «Прэстыжыа»…

Чым выклікана цікавасць? Можа, тым, што ён папросту добры? Калі ж больш сур'ёзна, то шлях да ўсіх гэтых перакладаў пачаўся з таго, што раман выйшаў выдавецкай серыі «Кнігарня «Нашай нівы». Пасля гэтага ён трапіў у рукі да цудоўнай польскай перакладчыцы беларускай літаратуры пані Малгажаты Бухалік. І настолькі ёй спадабаўся, што яна здзейсніла своеасаблівы перакладчыцкі подзвіг: не толькі пераклала раман, але і знайшла выдаўца ў Польшчы. Звычайна гэта не справа перакладчыка – шукаць выдаўца, а вось пані Бухалік гэта зрабіла. І тут мне зноў пашанцавала з выдавецтвам: польскае выдавецтва «Рэбіс», якое месціцца ў Познані, не толькі выдала раман, але і арганізавала цудоўную прамоцыю для кнігі. У рамках яе я аб'ездзіла шмат польскіх гарадоў і нават вёсак, былі сустрэчы з чытачамі, прэса таксама праявіла цікавасць… Бадай, я магу сказаць, што палякі як чытачы найбольш уразілі мяне сваёй інтэлігентнасцю, любоўю да літаратуры і глыбокімі развагамі над творамі, вялікай павагай да працы пісьменніка... Уявіце, у якім-небудзь паўночна-польскім гарадку з насельніцтвам у 30 тысяч чалавек на сустрэчу з аўтаркай з Беларусі збіраецца пад сотню чытачоў, і з іх пытанняў я бачу, што яны добра арыентуюцца ў беларускіх рэаліях, яны трохі ведаюць беларускую літаратуру і, самае галоўнае, хочуць ведаць больш! Ці была б аналагічная цікавасць да польскай аўтаркі, да польскай літаратуры, калі б аналагічную сустрэчу мы ладзілі ў якім-небудзь паўночна-беларускім горадзе кшталту Верхнядзвінска ці Гарадка? Баюся, што не. Бо і на чытацкіх сустрэчах з беларускімі аўтарамі там збіраецца нашмат менш людзей. Вось цікава – зараз прыйшла

*(Працяг на стар. 7)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Наталка Бабіна – празаік. Аўтар кніг «Крыві не павінна быць відна» (2007 г.), «Рыбін горад» (2008, 2011 г.) Нарадзілася ў 1966 годзе ў вёсцы Заказанка на Берасцейшчыне. Жыве пад Мінскам.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Наталіч Марына. Палыновая зорка: вершы, успаміны, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 112 с.**

Новая кніга Марыны Наталіч, рускай пісьменніцы, аўтара некалькіх кніг паэзіі і прозы, напісана пабеларуску. Гэта не столькі жаданне акрэсліць сябе ў іншай мове, як несумненная праява замілаванасці беларускім Словам, яго мелодыкай і загадкавымі сэнсамі. Гэта неадольнае жаданне спазнаць іншы свет, іншую Душу і распачаць шчырую, даверлівую размову.

У зборнік увайшлі вершы, успаміны і эсэ пра В. С. Палтаран, У А. Калесніка, В. У. Быкава.




**Параходзік сучаснасці: зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка (2012–2013). Уклад. Алена Казлова; пад рэд. П. Анціпава, А. Вылінскага, А. Казловай, А. Пашкевіча, А. Рудака. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 130 с., [36] с. іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 50).**

Кнігу склалі вершы, апавяданні і пераклады першага набора навучэнцаў Школы маладога пісьменніка, якая працуе пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з 2012 года.



**Лянкевіч Уладзь. 70% вады: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 54 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютны зборнік Уладзя Лянкевіча ўключае адзін скрадзены і некалькі дзясяткаў сваіх вершаў з музыкай і без. Некаторыя з вершаў, змешчаных у зборніку, пазначаныя не традыцыйнымі «зорачкамі», а нотным знакам: гэтыя тэксты сталіся песнямі, якія ўваходзяць у рэпертуар арт-рок і псіхадэлік гурта TonqiXod [ТонкіХод], дзе Уладзь Лянкевіч з'яўляецца вакалістам і гітарыстам.




**Нільсан Ульф. Найлепшы спявак у свеце. Мастак Эва Эрыксан; пер. са швед. Алесі Башарымавай. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 40 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 3).**

Ульф Нільсан і Эва Эрыксан разам зрабілі цэлы шэраг дзіцячых кніжак з малюнкамі, якія ўжо сталі ў Швецыі класікай. Ульф Нільсан напісаў больш за 100 казак і кніг для дзяцей і падлеткаў, а Эва Эрыксан ілюстравала як свае кнігі для дзетак, так і творы многіх іншых вядомых шведскіх дзіцячых пісьменнікаў.




**Барадулін Рыгор. У неба пехатою. Апошнія вершы. Прадмова У. Някляева; пасляслоўе, укладанне С. Шапрана. – Мінск: Медыял, 2014. – 224 с.**

24 лютага 2014 года Рыгор Барадулін сустрэў 79-ы дзень нараджэння, а 2 сакавіка яго не стала. У кнігу «У неба пехатою» ўвайшлі выбраныя вершы апошніх гадоў, пэўная частка якіх друкуецца ўпершыню па рукапісах Рыгора Барадуліна. Выданне падрыхтавана да саракавін па нашым паэце.




**Вітка Васіль. Выбраныя творы. Уклад. і камент. Т. Тарасавай, К. Цвіркі; прадм. А. Васілевіч. – Мінск: Беларус. навука, 2013. – 524 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя І. Мастацкая літаратура).**

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіль Вітка (1911–1996) пакінуў пасля сябе вялікую літаратурную спадчыну – вершы, паэмы, апавяданні, эсэ, успаміны, літаратурныя крытычныя артыкулы, шматлікія творы для дзяцей, за якія ён быў узнагароджаны Міжнародным ганаровым дыпломам імя Г. К. Андэрсена. У гэтую кнігу ўвайшло ўсё самае значнае з мнагаграннай творчасці пісьменніка.




**Лынькоў Міхась. Выбраныя творы. Уклад., прадм., камент. Д. Бугаёва. – Мінск: Беларус. навука, 2013. — 560 с.: [8] с. іл. – (Беларускі кнігазбор: Серыя І. Мастацкая літаратура).**

Міхась Лынькоў (1899–1975) – народны пісьменнік Беларусі. У кнігу ўключана ўсё самае значнае з яго творчай спадчыны – апавяданні, дзе найбольш ярка праявіўся талент пісьменніка, аповесці, нарысы, лісты да розных асоб.




**Кумпфмюлер Міхаэль. Харастo жыцця: раман. Пераклад з нямецкай Ірыны Герасімовіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 244 с.**

Год 1923. Мюрыц. Хворы на сухоты Франц Кафка знаёміцца з Дорай Дыямант ды рашаецца на тое, што раней падавалася абсалютна немагчымым: выпраўляецца з ёю ў Берлін, не запытаўшыся дазволу ў бацькі, жыве з жанчынай і, нягледзячы на гэта, працягвае пісаць. Дора застаецца з ім да самай яго смерці ў 1924 годзе. Гэтыя рэальныя падзеі Міхаэль Кумпфмюлер выкарыстоўвае як нагоду для таго, каб расказаць пранізлівую гісторыю пра жыццё і смерць. Ды яшчэ пра каханне, якое хоць і не можа адмяніць або адцягнуць смерць, але затое можа проста быць, і ягоная прысутнасць у стане і апошнія дні напоўніць харастом жыцця.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Крыніцкі Рышард. Дакрануцца: выбраныя вершы. Пераклад з польскай мовы Андрэя Хадановіча. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 146 с.**

Рышард Крыніцкі (нар. у 1943) – выбітны польскі паэт, а таксама перакладчык і выдавец паэзіі, адзін з лідараў літаратурнай групы «Новая хваля». Дэбютаваў у 1968 годзе зборнікам «Шал пагоні, шал уцёкаў». У 1970-х гадах быў звязаны з апазіцыяй, таму ў 1976–1980 гадах трапіў у «чорны спіс» і не друкаваўся ў Польшчы. Лаўрэат шматлікіх літаратурных узнагародаў, сярод якіх прэмія фундацыі імя Касцельскіх і прэмія польскага ПЭН-клуба. У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы з большасці паэтычных зборнікаў аўтара.




**Шымборска Віслава. Канец і пачатак: выбраныя вершы. Уклад. А. Хадановіч. Пер. з польскай М. Казлоўскай, К. Мацieўскай, Н. Мацяш, Н. Русецкай, Г. Янкуты, А.Ф. Брыля, А. Лойкі, С. Прылуцкага, М. Танка, А. Хадановіча. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 146 с.**

Віслава Шымборска – вядомая польская паэтка, эсэістка, літаратурны крытык, перакладчыца. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры 1996 года. У кнігу ўвайшлі вершы са зборнікаў «Дастаткова», «Тут», «Двухкроп'е», «Імгненне», «Канец і пачатак»,«Людзі на мосце», «Вялікая лічба», «Усялякі выпадак», «Смех дый годзе», «Соль», «Гуканне Еці», «Пытанні да самой сябе», «Таму жывем», з нявыдадзенай кнігі, а таксама нобелеўская лекцыя «Паэт і свет».




**Харытанюк Наталка. Смерць лесбіянкі. Пяцьдзясят два крокі па полацкіх лабірынтах: раман. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 156 с. – (Галерэя «Б»).**

Другая кніга ўсё яшчэ маладой літаратаркі Наталкі Харытанюк – пра жыццё як вайну густаў. Раман задумваўся ў час, калі аўтарка сама патрапіла пад абстрэл у гэтай вайне, але не здалася.

Думка пра магчымасць здацца, прыняць розныя праўды і мілую адноснасць як новую веру так і не прыйшла ёй да галавы. Унутраны стрыжань застаўся стрыжнем. Туга па геураічным – тугой.




**Клінаў Артур. Шклатара: раман. – Мінск, Логвінаў, 2013. – 336 с.**

«Шклатара» – рэальная кропка ў рэальным горадзе ў рэальны час. Месца дзеяння – Мінск, праспект Незалежнасці 37А, былы пункт прыёму шклатары, а цяпер нонканфармісцкая галерэя, выдавецтва і кнігарня. Час дзеяння – канец 2010 года. Героі – людзі беларускага андэргаўнду, постмадэрнісцкага падполля ў краіне постмадэрнісцкай дыктатуры. Рэальнасць для герояў змянілася цытатамі. Цытата на дэмакратыю, цытата на дыктатуру, цытата на рэвалюцыю, цытата на каханне…




**Глобус Адам. Партрэты. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 96 с.**

У новай кнізе сабрана калекцыя літаратурных партрэтаў. Большасць калекцыі складзена з вобразаў блізкіх і вельмі блізкіх людзей, якіх аўтар цудоўна ведаў. Таму тэксты прасякнутыя цёплымі пачуццямі любові і спагады. А таксама ў кнізе змешчаны партрэты творцаў, з якімі аўтар не быў асабіста знаёмы, але чые творы моцна на Адама Глобуса паўплывалі.




**Станкевіч Юры. Брамнік заўжды самотны: аповесць, апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 144 с.**

Новая кніга Юры Станкевіча разлічана на тых, хто любіць спорт, прыгоды, актыўнае, здаровае жыццё. Дзеянне прадстаўленых у зборніку мастацкіх твораў адбываецца як у сучаснасці, так і ў далёкім або блізкім мінулым; часам яно нясе прытчавую ці фантастычную афарбоўку. Аповесць «Брамнік заўжды самотны» распавядае пра маладога і вельмі таленавітага футбаліста, брамніка па прызванні, які хоча стаць такім самым вялікім галкіперам, як Луіс Чылаверт. Псіхалогія юнакоў і дзяўчат, тэмы мужнасці і кахання – усё гэта складае змест кнігі.




**Гаўф Вільгельм. Карлік Нос. Уклад. А. Макарэвіч пер. з ням. У. Папковіча. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 108 с.**

Кніга Вільгельма Гаўфа пабачыла свет у межах конкурсу «Ствараем кнігу разам!», які зладзіў дабрачынны фонд «Вяртанне». Дзеці і падлеткі з усёй Беларусі ілюстравалі казкі вядомага нямецкага пісьменніка ў перакладзе на беларускую мову. 279 чалавек даслалі 320 малюнкаў. У кнігу ўвайшло 18. І плён такой працы Вы трымаеце цяпер у руках.




**Я адзавуся!: кніга пра Каліноўскага і Касінераў Свабоды. Уклад.: С.С. Панізьнік; прадм.: Г.В. Кісялёў. – Мінск: Лімарыус, 2014. – 508 с.**

Многія пакаленні творцаў Роднага Слова сталі аўтарамі гэтай кнігі. Каліноўскага ўслаўлялі нашы знакамітыя літаратары, і іх набыткі ўключаныя ў школьную праграму. Таму подзвігамі продкаў натхняюцца і настаўнікі, і вучні: чытайце іх вершы ў раздзеле «Вядзі нас на ахвярную сяўбу». На сёлета прыходзіцца маркотная дата – 150-я ўгодкі страты Каліноўскага на Лукішскім пляцы ў Вільні. Ідзе абнаўленне Памяці пра Справядлівага (2.2.1838–22.2.1864), яго ахвярных аднадумцаў.

Хай чытачоў натхняе мужнасць паўстанцаў, адданасць Бацькаўшчыне, самаахвярнасць у змаганні за свабоду, роўнасць, права людзьмі звацца ў супольнасці еўрапейскіх народаў.

# «Жукі абудзіліся вясной...»

Новая кнігарня, а заадно і культурніцкая пляцоўка, пад шыльдай «Галіяфы» адчынілася ў двух кроках ад метро «Маскоўская». На адкрыццё кнігарні, што адбывалася пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!», прыйшоў натоўп чытачоў, які і блізка не змяшчаўся ў памяшканні.

Месца для новай крамы беларускіх кніг абранае ўдала – зусім побач метро і праспект Незалежнасці, пры гэтым будынак знаходзіцца не ля самай дарогі, а троху ўтоплены ў невялікі скверык, дзе ў цёплае надвор'е з ганку можна таксама спяваць і чытаць вершы.

Дырэктар «Галіяфаў» Зміцер Вішнёў кажа, што месца для кнігарні не маглі знайсці цэлы год, пакуль аднойчы яму не патэлефанаваў музыка Улад Бубен з навіной, што на вуліцы Валгаградскай здаюцца ў арэнду памяшканні электрамеханічнага завода.




«У нас тут побач цудоўны Ленін, і мы, магчыма, будзем маляваць яго на нашых буклетах, каб патлумачыць нашае размяшчэнне, – гаворыць Вішнёў. – Увогуле думаю, мы тут застанемся надоўга, бо ўклалі шмат сіл, рабілі рамонт, стварылі ўсё практычна з нуля». Апроч памяшкання кнігарні з вокнамі на ўсю сцяну, выдавецтва мае таксама офісныя пакоі і вялікі склад.

Вядома ж, новую кнігарню будуць увесь час параўноўваць з кнігарняй выдавецтва «логвінаЎ», якая дагэтуль заставалася галоўнай пляцоўкай для літаратараў. У чым будзе іх адрозненне?

«Я не стаў бы параўноўваць наш праект з нейкай іншай кнігарняй, – пярэчыць гаспадар «Галіяфаў». – Мне здаецца, мы адметныя ўжо як выдавецтва, таму паралель трэба праводзіць не з канкрэтнай кнігарняй, а з культурным асяродкам».

З навоўвядзенняў пісьменнік і мастак Вішнёў называе ўвагу да выяўленчага мастацтва: над стэлажамі ў кнігарні вісяць карціны, якія будуць прадавацца. Часам экспазіцыю галерэі будуць здымаць на некалькі дзён, каб ладзіць персанальныя выставы мастакоў з прэзентацыяй каталогаў, якія плануецца выдаваць у мастацкай серыі «Галіяфаў».

Магчыма, праз аддаленасць ад цэнтра ды адсутнасць побач кавярні публіка «Галіяфаў» будзе адрознівацца ад багемных наведнікаў кнігарні «логвінаЎ». На адкрыцці было шмат незнаёмых і зусім маладых твараў, збольшага студэнты, якія бралі аўтографы ў Адама Глобуса і абступалі Альгерда Бахарэвіча, прызнаючыся яму ў прыхільнасці.



Сярод натоўпу мы заўважылі Кацярыну Пікірэню, дырэктарку кнігарні «логвінаЎ», і распыталі яе, што яна думае пра поспех канкурэнтаў:

«Дужа ўражаная, па шчырасці. Па-першае колькасцю людзей, па-другое, мне вельмі спадабалася месца. Я баялася, што тэндэнцыя будзе працягвацца: мы троху ў дварах знаходзімся, з'явілася таксама культурніцкая прастора «ЦЭХ», да якой не ўсе могуць дайсці з першага разу, і вось кнігарня «Галіяфы» адчыняецца ў такім зручным месцы, зусім побач з праспектам», – кажа Кацярына. Яна дадае, што новая кнігарня – безумоўна, канкурэнт, бо кнігі яны з Логвінавым будуць прадаваць прыкладна аднолькавыя. У той жа час адной такой кнігарні на ўвесь горад было яўна мала. «Мы абмяняліся кнігамі і будзем супрацоўнічаць. Нашая кнігарня і раней прадавала выданні «Галіяфаў», а цяпер і яны будуць прадаваць кнігі выдавецтва «логвінаЎ», – міралюбіва кажа Кацярына Пікірэня.



Пакуль асартымент крамы, куды першыя наведнікі змаглі трапіць невялікімі купкамі, адстаяўшы чаргу, не вельмі багаты і складаецца ў асноўным з «галіяфаўскіх» выданняў. Але ў хуткім часе паліцы плануюць папоўніць, у тым ліку і дзіцячай літаратурай, а таксама кнігамі выдавецтва «Русский Гулливер», з якім «Галіяфы» сябруюць. Нацэнка будзе, бо выдавецтва мусіць плаціць арэнду, але кошты на свае выданні абяцаюць самыя нізкія ў горадзе. Для прыкладу, новая кніга Юрыя Станкевіча «Брамнік заўжды самотны» каштуе тут 60 тысяч.

Падчас адкрыцця, якое атрымалася ціхім, бо яго паглынуў натоўп, на ганку выступіў Адам Глобус, які паабяцаў быць частым госцем кнігарні, а Альгерд Бахарэвіч распавёў, што ў хуткім часе «Галіяфы» перавыдадуць ягоны раман «Шабаны». Група Экзарцыстычны Gesamtkunstwerk паказала невялікі перформанс, падчас якога Ілля Сін сядзеў у кнігарні, надзеўшы вялізную галаву-шар, склеены з газет. На «галаву» праецыраваліся выступ тэлевядоўцы Аверкава і кадры, дзе жук каціць перад сабой шарык. Пасля Сін вываліўся з кнігарні, уваход у якую быў забарыкадаваны сцяной са старых кніг, а іншы ўдзельнік перформансу ў цельніку падхапіў яго на рукі і выкінуў у вялікую сметніцу. Там ён і застаўся ляжаць, на радасць дзецям, якія тут жа пачалі таксама забірацца ў сметніцу і стукаць кулачкамі ў папяровую галаву. Магчыма, перформанс можна разумець як канстатацыю засмечвання галоваў дробнай і мітуслівай штодзённай інфармацыяй замест чытання літаратуры. Зрэшты ён меў і практычнае значэнне, бо бібліяфілы тут жа накінуліся на разбураную сцяну, выкопваючы з-пад завалаў патрапаныя кнігі з 60-х гадоў.

Кнігарня «Галіяфы» надалей плануе ладзіць у сваіх новых сценах прэзентацыі і чытанні, каб ствараць вакол сябе пэўны асяродак і сваё літаратурнае жыццё.

**Аляксандра Дорская**
**Фота: Аляксандр Ждановіч**




**Ліс Арсень. Выбранае. Уклад. і камент. аўтара, прадм. М. Казлоўскага. – Мінск: Беларус. навука, 2014. – 592 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя II. Гісторыка- літаратурныя помнікі).**

У кнігу вядомага беларускага пісьменніка і фалькларыста А. Ліса (нар. 1934) увайшло ўсё самае значнае з яго творчага набытку. Першы раздзел «Дойліды беларускай дзяржаўнасці» склалі нарысы пра выдатных дзеячаў беларускага нацыянальнага Адраджэння. У раздзеле «Паэзія земляробчага календара» раскрываецца багацце і прыгажосць беларускай народнай творчасці. З цікавасцю сустрэне чытач і матэрыялы раздзелаў «Галасы зямлі беларускай», «Вётхаўскія эсэ», а таксама старонкі ўспамінаў А. Ліса.




**Машынскі Казімір. Усходняе Палессе. Уклад., прадм., камент. У. Васілевіча; пер. Л. Салавей. – Мінск: Беларуская навука, 2014. – 528 с. [8] с.: іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя II. Гісторыка-літаратурныя помнікі).**

Казімір Машынскі (1887–1959) – сусветна вядомы польскі вучоны-этнограф, аўтар фундаментальных даследаванняў «Народная культура славян», «Чалавек. Уступ да агульнай этнаграфіі і этналогіі» і інш. Асабліва цікавіла польскага вучонага самабытная народная культура ўсходняй часткі беларускага Палесся, якое шмат хто лічыць калыскай усяго славянства. Вынікам шматгадовага вывучэння жыцця і побыту палешукоў-беларусаў з'явілася грунтоўная манаграфія К. Машынскага «Усходняе Палессе», а таксама шэраг артыкулаў, якія і пададзены ў гэтым выданні.




**Замкі, палацы і сядзібы ў кантэксце еўрапейскай культуры: зборнік навуковых артыкулаў. Мін-ва к-ры Рэсп. Беларусь, Установа «Музей «Замкавы комплекс «Мір»; рэдкал.: В. М. Папко [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2013. – 282 с.: іл.**

Зборнік змяшчае навуковыя артыкулы, якія створаны на аснове дакладаў, прачытаных на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Замкі, палацы і сядзібы ў кантэксце еўрапейскай культуры», якая адбылася ў музеі «Замкавы комплекс «Мір» 25–26 красавіка 2013 г.

Працы вучоных з Беларусі, Літвы, Расіі, Украіны прысвечаны разнастайным аспектам існавання і развіцця замкаў, палацаў і сядзібаў на тэрыторыі Беларусі і суседніх краінаў у XV–XX стст. Асаблівае месца займаюць матэрыялы па практычным выкарыстанні навуковых дасягненняў у музеефікацыі замкавых і палацавых комплексаў.

Зборнік уяўляе цікавасць для навукоўцаў і музейных супрацоўнікаў, а таксама шырокага кола аматараў гісторыі, музеялогіі і краязнаўства.




**Гладкі Мікалай. Кайшовка: пять столетий истории. – Минск: Медисонт, 2013. – 434 с.**

У кнізе на аснове шырокага архіўнага матэрыялу прадстаўлена гісторыя старадаўняй беларускай вёскі Кайшоўка на Навагрудчыне. Прыведзены гістарычныя сведчанні пра першае пісьмовае згадванне вёскі ў Метрыцы ВКЛ. Упершыню публікуюцца рэвізскія казкі 1795, 1816, 1834, 1850 і 1858 гг. Распавядаецца пра няпростае жыццё аднавяскоўцаў, якія змагаліся супраць польскіх уладаў у 1922–1939 гг. і ваявалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны супраць фашысцкіх захопнікаў. Кніга прызначана для шырокага кола чытачоў, што цікавяцца гісторыяй, генеалогіяй і краязнаўствам.




**Стома Васіль. Маё мястэчка. Прадм. Лявон Юрэвіч; рыхт. тэксту і моўная рэд. Зміцер Саўка; камент. Зміцер Саўка і Наталля Гардзіенка. – Мінск: Лімарыус, 2014. – 292 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Упершыню выдадзеныя ў поўным варыянце ўспаміны эміграцыйнага дзеяча Васіля Стомы (1911–1992) «Маё мястэчка» адлюстроўваюць непаўторны свет заходнебеларускага мястэчка Лужкі, дзе прайшло дзяцінства аўтара.

Маляўнічы, поўны дэталяў і гумару аповед пра вуліцы, будынкі, жыхароў, звычаі местачкоўцаў будзе цікавы не толькі навукоўцам, але і аматарам прыгожага пісьменства.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 13. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2014. – 320 с.**

Матэрыялы трынаццатага выпуску дайджэсту падзелены на пяць тэматычных частак. Яны прысвечаны розным пытанням гісторыі Літвы-Беларусі, Рэчы Паспалітай, БНР і БССР. Усяго ў выпуску 27 матэрыялаў і 138 ілюстрацыяў.




**Копыл Ілля. Нябышына. Акупацыя вачыма падлетка. – Рыга: ІБГіК, 2014. – 288 с.: мал.**

Кніга І. Копыла ў 2009 г. была апублікаваная асобнымі выпускамі ў газеце «Народная воля». Яна выклікала вялікую цікавасць у чытачоў, а таксама моцную незадаволенасць сярод той часткі нашага грамадства, якая працягвае стаяць на платформе савецкай ідэалогіі. Новы варыянт кнігі значна павялічаны за кошт 3-й часткі («Рэзананс»), якая адсутнічала ў папярэднім выданні. У ёй аўтар падрабязна разгледзеў зласлівыя выбрыкі сваіх апанентаў і даў вычарпальныя адказы на іх паклёпніцкія выдумкі.




**Мінскі Алесь. Ігнат Канчэўскі: Шукальнік беларускага шляху. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Ігнат Канчэўскі (1896–1923) – выбітны дзеяч беларускага Адраджэння пачатка 1920-х гадоў. Ён вядомы сваім творам «Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага светагляду» (1921 г.). Гэтае эсэ дагэтуль не згубіла актуальнасці, ўражвае чытачоў арыгінальнасцю думак і трапнасцю фармулёвак. Тэкст эсэ можна разглядаць як ключ да разумення сутнасці нацыянальнага характару і ментальнасці беларусаў, адметнасці беларускай душы.




**Тарас Анатоль. Вацлаў Ластоўскі: Вяшчун крывіцкай культуры. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Вацлаў Ластоўскі (1883–1938) – вядомы беларускі гісторык, філолаг, літаратуразнаўца, этнограф, пісьменнік, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч. Адзін з першых акадэмікаў АН БССР, яе неадменны сакратар у 1928–1929 гг. Ён аўтар першай «Гісторыі Беларусі», напісанай для беларусаў на роднай мове, а таксама рэдактар-выдавец часопіса «Крывіч» і стваральнік фундаментальнай «Гісторыі беларускай кнігі». У 30-я гады XX стагоддзя В. Ластоўскага напаткаў той жа лёс, што і ўсіх іншых выбітных дзеячаў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, – камуністы забілі яго.




**«Гаючае слова роднай зямлі» (беларускія лекавыя замовы). Фальклорна-этнаграфічны зборнік. Аўтар уступнага артыкула, аўтар-укладальнік Вяргеенка С. А. – Гомель: Барк, 2013. – 340 с.**

У кнізе прадстаўлена калекцыя беларускіх лекавых замоваў у сучасных запісах, сабраная студэнтамі і выкладчыкамі УА «Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны» падчас палявых фальклорных экспедыцыяў не толькі па ўсіх раёнах Гомельшчыны, але і па іншых рэгіёнах Беларусі. Матэрыял размешчаны па функцыянальных групах, што дазваляе ўбачыць іх разнастайнасць і адметнасці мастацка-вобразнай сістэмы. Тэксты замоваў, якія прапануюцца чытачу, даюць магчымасць пазнаёміцца з сучаснай карцінай захавання лекавых замоваў у актыўнай памяці жыхароў Беларусі. Замоўныя тэксты пададзены з захаваннем асаблівасцей мясцовай гаворкі, у значнай колькасці прыводзіцца поўнасцю магічны рытуал, вербальная частка падмацавана акцыянальнай і прапануюцца некаторыя іншыя каментары інфарматараў.




**Токць Сяргей, Дзелянкоўскі Мікалай. Скідзель і яго ваколіцы: жывая гісторыя. – Мінск: Тэхналогія, 2014. – 375 с.: іл.**

Навукова-папулярная праца, прысвечаная мінуўшчыне горада Скідзеля і наваколля. Кніга напісаная на грунце вывучэння шырокага кола архіўных крыніцаў, вусных успамінаў і краязнаўчых матэрыялаў. Аўтары прасочваюць гісторыю рэгіёна ад першых згадак у старажытных дакументах XV стагоддзя да сярэдзіны XX стагоддзя. Гэтая гісторыя падаецца ў яе антрапалагічным вымярэнні, паказваецца на прыкладзе ўчынкаў і лёсаў звычайных людзей, якія ўпартай працай і змаганнем за лепшую долю стваралі будучыню сваёй радзімы.




**Сериков Гририй, Чечет Павел. Словарь базовой лексики польских СМИ. – Минск: Змицер Колас, 2013. – 216 с.**

Слоўнік прызначаны для тых, хто пачынае вывучэнне польскай мовы і мае на мэце пазнаёміць навучэнцаў з найбольш часта ўжывальнай лексікай у самых папулярных перыядычных выданнях (газетах) Польшчы. Метадам суцэльнай выбаркі з лексічнага корпуса ў 170878 адзінак аўтарамі было вылучана лексічнае ядро, якое складаецца з 4179 самастойных і службовых словаў з частотнасцю ўжывання ад 5513 да 5 разоў. Выданне складаецца з дзвюх частак і каментароў. У першай частцы слова размешчаны ў алфавітным парадку, у другой – па прынцыпе змяншэння частотнасці, і размяжоўваюцца на першую, другую, трэцюю і чацвёртую тысячу. Слоўнік дае магчымасць выкладчыку вызначыць той лексічны мінімум, які неабходны навучэнцам для іх першаснага знаёмства з польскай мовай.




**Піскуноў Фёдар. Мова як сістэма: Правапіс у святле камп'ютарна-лінгвістычнага аналізу. Склад.: К. Ф. Піскуноў, К. М. Пучынская; пад рэд. М. Р. Прыгодзіча. – Мінск: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2014. – 360 с.**

У зборнік уключаны навуковыя публікацыі Фёдара Піскунова, прысвечаныя актуальным пытанням беларускага правапісу, што разглядаліся з апорай на прадстаўнічую электронную базу дадзеных беларускай мовы і з дапамогай праграмных метадаў аналізу. Фёдар Піскуноў прапанаваў унікальную класіфікацыю зменных часцінаў мовы і выдаў першы ў беларускай лексікаграфіі граматычна-арфаграфічны «Вялікі слоўнік беларускай мовы». Дапаўняюць зборнік рэцэнзіі на слоўнік Ф. Піскунова, інтэрв'ю, успаміны, фотаматэрыялы.

Выданне адрасавана мовазнаўцам, даследчыкам, а таксама тым, хто цікавіцца праблемамі развіцця беларускай мовы.

# «Кніга пішацца праз мяне...»

(Пачатак на стар. 1)

думка – а калі прывезці туды якіх рускіх аўтараў, ці прыйдуць да іх больш масава? Падаецца, што не. Што б там ні казалі, але Беларусь – не чытаючая краіна, калі браць па вялікім рахунку. І ці яшчэ магчыма змяніць сітуацыю – няясна.

А вяртаючыся да вашага пытання: пасля выдання ў Польшчы раман трапіў у фінал прэстыжнага літаратурнага конкурсу «Ангелус», а пасля гэтага – у поле зроку выдаўцоў у розных краінах… Вось так усё і выйшла.

**– Пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў створана Таварыства ўкраінскай літаратуры, старшынёю якога абралі Вас. Як узнікла ідэя арганізацыі Таварыства і якія яго асноўныя мэты? Распавядзіце пра найбліжэйшыя планы дзейнасці Таварыства?**

– Ідэя стварэння Таварыства ўзнікла роўна год таму. Адбылося гэта досыць цікавым чынам. Я тады ўдзельнічала ў літаратурнай вандроўцы. Такія вандроўкі на працягу некалькіх гадоў ладзіла ў Беларусі шведская журналістка Марыя Сёдэрберг пры спрыянні пасольства Швецыі. Звычайна гэта былі паездкі па літаратурных месцах Беларусі. Але ў той год, калі памятаеце, шведскае пасольства прыпыніла сваю працу, а спн. Сёдэрберг увогуле не далі візы. І тады, каб не перарываць традыцыю, яна вырашыла зрабіць беларускую літаратурную вандроўку ў Львоў. Туды прыехалі літаратары з Мінска, а таксама літаратары, журналісты, інтэлігенцыя з Брэста, Пінска і іншых гарадоў Брэскай вобласці. У Львове было ў рамках гэтага мерапрыемства было шмат імпрэз, абменаў думкамі, ладзіліся чытанні і канцэрты – словам, было вельмі цікава.

Але падчас гэтай вандроўкі мяне вельмі «зачапілі» дзве акалічнасці. Па-першае, тады некаторыя мае калегі з Мінска нібы з гумарам папікалі мяне маёй украінскасцю, тым, што нібыта я «хачу аддаць Берасцейшчыну Украіне». Гэта было на ўзроўні жарту, але, як кажуць, у кожным жарце ёсць доля жарту, астатняе – цалкам сур'ёзна. Вы ж, напэўна, ведаеце, што я родам з украінскамоўнага Брэсцкага раёна, і заўсёды падкрэсліваю, наколькі важная для мяне мая родная ўкраінская мова. Шчыра кажучы, вось гэтыя кепікі тады мяне балюча закранулі. Я думала: няўжо нават вельмі паважаныя, таленавітыя асобы абсалютна не разумеюць моўнай сітуацыі на Брэстчыне?!

І другое, што мяне страшэнна ўразіла: у дэлегацыі з Брэсцкай вобласці былі цудоўныя людзі, якія шчыра цікавяцца культурай і літаратурай, працуюць у гэтых галінах… Не хачу нікога пакрыўдзіць, але вельмі многія з іх пры гэтым не маглі звязаць і двух словаў ні па-беларуску, ні па-ўкраінску. Як так?! Для мяне гэта быў шок! Вось да якой ступені дайшла русіфікацыя на Брэстчыне, калі нават літаратары, журналісты не могуць гаварыць ніяк, акрамя як па-руску?! А я ж, жывучы ў вёсцы ў Брэсцкім раёне, да сямі гадоў увогуле нідзе і ні ад каго не чула рускага слова! Мяне, як і маіх сяброў, спецыяльна спехам вучылі рускай, толькі калі надышла пара ў школу ісці…

Тады, падчас вандроўкі ў Львоў, я пастаралася данесці да калег тую выснову, якую для сябе зрабіла даўно: украінскія гаворкі Брэстчыны – гэта каштоўнасць. Калі Беларусы хочуць, каб Брэстчына была беларускай – яны павінны ўлічваць яе ўкраінскамоўнасць і ўсімі сіламі спрыяць яе захаванню і развіццю. Не будзе гэтага – у традыцыйна ўкраінскамоўных рэгіёнах Брэстчыны будзе папросту выпаленае русіфікацыяй голае нацыянальнае і культурнае поле, на якім не будзе і знаку беларускасці. Я сама прайшла гэты шлях: калі б у свой час не ўсвядоміла, што гавару па-ўкраінску, што з'яўляюся этнічнай украінкай – ніколі б не стала пісаць і гаварыць па-беларуску, была б зараз тыповай рускамоўнай аўтаркай з Беларусі…

Менавіта тады, у Львове, супадзенне гэтых фактаў стала каталізатарам для таго, каб я вырашыла для сябе: трэба быць больш настойлівай у тым, каб данесці сваю пазіцыю да калег-пісьменнікаў, да чытачоў. Падчас выступу ў Львове экспромтам прыйшла думка пра тое, што было б супер, калі б пры нашым Саюзе пісьменнікаў існавала нейкая структура, якая спрыяла б тым людзям, што жывуць у Беларусі і пішуць па-ўкраінску, і тады я пра гэта ўпершыню сказала... І я бязмежна ўдзячная старшыні Саюза сп. Пятровічу, яго намесніку сп. Пашкевічу за тое, што яны падтрымалі гэтую ідэю. Паседжанне рады СП, на якой абмяркоўвалася стварэнне Таварыства, было досыць бурхлівым, але я радая, што ўрэшце ідэя была аднагалосна падтрыманая. Згодна з палажэннем аб дзейнасці Таварыства ўкраінскай літаратуры, мэты ягонай працы наступныя:

– спрыянне ўкраінска-беларускім літаратурным сувязям і актывізацыя ўзаемных мастацкіх перакладаў;

– падтрымка беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць у Беларусі і пішуць па-ўкраінску (ці на ўкраінскіх гаворках), а таксама беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць ва Украіне і пішуць па-беларуску (ці на беларускіх гаворках);

– развіццё ўкраінскамоўнага прыгожага пісьменства ў Беларусі і беларускамоўнага прыгожага пісьменства ва Украіне;

– захаванне і папулярызацыі нацыянальных літаратурных спадчын Беларусі і Украіны.

У найбліжэйшых планах – выданне першага нумару альманаху твораў тых аўтараў, што жывуць у Беларусі і пішуць па-ўкраінску або на ўкраінскіх гаворках. Мяне цешыць, што твораў дасылаецца шмат, і яны досыць высокага літаратурнага ўзроўню. Працу галоўнага рэдактара альманаху пагадзіўся ўзяць на сябе вядомы беларускі пісьменнік Алесь Наварыч. Акрамя гэтага, цяпер вядуцца перамовы з аўтарамі і выдаўцамі аб выданні па-беларуску выдатных украінскіх пісьменнікаў Сяргея Жадана і Марыі Матыяс. Пачынаем працу ў сацыяльных сетках. Працы будзе шмат, і я вельмі радуюся, што, падаецца, мае сябры і калегі актыўна за яе ўзяліся.

**– З даўніх часоў беларусы і ўкраінцы былі суседзямі, а ў часы ВКЛ нават жылі ў адной краіне. Наколькі цесная сувязь паміж беларускай і ўкраінскай культурай, літаратурай цяпер? Беларуская літаратура запатрабаваная ва Украіне? Хто з беларускіх літаратараў найбольш цікавы для ўкраінцаў і чаму?**

– На жаль, нельга сказаць, што ва Украіне цяпер добра ведаюць беларускую літаратуру, а ў Беларусі – украінскую. Хутчэй, тут назіраецца пэўны культурны прагал, і адна з задач Таварыства – ліквідаваць яго. Нельга сказаць, што не было ўзаемных перакладаў, але поле для ўзаемнай папулярызацыі нашых літаратур шырокае.

**– У адным з інтэрв'ю Вы сказалі: «…калі Бог дасць і я буду пісаць наступны раман, то я буду пісаць яго адначасова на дзвюх мовах – па-беларуску і па-ўкраінску». Чытачы чакаюць ад Вас новых твораў. Якімі будуць яны?**

– Думаеце, чакаюць? Што ж, дзякуй за такія словы! Але калі гэта так, то, мушу прызнацца, мне сорамна перад імі – відаць, трэба было больш працаваць, больш «выдаваць на-гара»… Але ж, з іншага боку, літаратурная праца – вельмі спецыфічная, і пісьменнік піша толькі тады, калі яму пішацца… Пасля пэўнай паўзы, здаецца, мне зноў пачало пісацца. Здаецца, новы раман усё ж будзе. Гэта будзе працяг «Рыбінага горада» – з тымі ж асноўнымі героямі, але ў іншай сітуацыі. Але, пачынаючы пісаць, я ніколі не ведаю, чым скончыцца твор – не я пішу кнігу, а кніга пішацца праз мяне Пабачым, што з гэтага выйдзе.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Алексіевіч Святлана. Час second-hand (Канец чырвонага чалавека) / пер. В. Стралко, Ц. Чарнякевіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 384 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 48).**

Кніга Святланы Алексіевіч, якая была перакладзеная на многія еўрапейскія мовы і атрымала некалькі прэстыжных літаратурных прэмій, цяпер даступная па-беларуску. У прадмове аўтарка піша: «За семдзясят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму выгадавалі адмысловы чалавечы тып – homo soveticus. Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, поплеч, пражыла шмат гадоў. Ён – гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, бо homo soveticus – гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі... Цяпер мы жывем у розных дзяржавах, размаўляем на розных мовах, але нас ні з кім не пераблытаеш...»

Кніга «Час second-hand (Канец чырвонага чалавека)» закранае маштабныя гістарычныя тэмы: Вялікую Айчынную вайну, Афганістан, Чарнобыль, час «перабудовы» і развал сацыялістычнай імперыі. У творы даследуецца феномен мыслення савецкага чалавека, феномен сацыялізму і выкладаецца аўтарская канцэпцыя найноўшага часу, які пісьменніца называе «часам сэканд-хэнд».




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXIII. №2. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 256 с.**

Пабачыў свет другі выпуск літаратурнага альманаха «Новы Замак», які выдаецца Гродзенскім абласным аддзяленнем ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Укладальнікам выдання выступіў Сяргей Астравец, рэдактарам – старшыня абласнога аддзялення СБП Юрка Голуб.

У «Новым Замку» змешчаныя творы двух дзясяткаў аўтараў – паэзія, проза, драматургія, пераклады, дзённікі, успаміны. У рубрыцы «Са спадчыны» публікуецца драматычная паэма «Каранацыя Міндоўга» Міколы Арочкі і вершы Юрыя Кісялеўскага. Успаміны Алы Петрушкевіч пра Едруся Мазько і Сяргея Астраўца пра Юрыя Гуменюка можна знайсці ў раздзеле In memoriam. Адметныя пераклады з Міраслава Качмарэка, Эльжбеты Міхальскай, Юлія Тувіма, Яна Паўла ІІ у перастварэнні, адпаведна, Дануты Бічэль, Юркі Голуба, Юрыя Кісялеўскага, Алеся Чобата. Прадмову да перакладаў напісаў Анатоль Брусевіч.

Віктар Сазонаў прадстаўляе нізку апавяданняў, раней апублікаваных толькі па-польску. Завяршаецца альманах рубрыкай «Хроніка», дзе расказваецца пра правядзенне гарадзенскага слэму і іншыя культурныя падзеі рэгіёна.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 25
красавік, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 25, 24.04.2014.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com